№ 39. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на $1/2$ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.
Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 39 (131). Год II. Вільня, 16 мая 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## ПАБЕДА ЛЕНІНА.

### 14 мая.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Пасьля сільнаго агня артылерыі пачаліся англіцкіе наступленьня пры Опі і Фампі; яны адбіты. Пры Більскур трываюць вострые бітвы. У упорнай бітве мы ўдзержалі руіны вёскі проці некалькіх атак ворагоў. С. Кантэн ад абстрэлу ворагоў усё болей руйнуецца.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На Эн—без перамен. У Шампані артылерыйская бітва між Прынэ і Обэрів дайшла значнай сілы.

Учора ворагі утрацілі 12 самалётаў і 1 лятучы шар. Вольфф збіў свайго 30-го ворага, Ріхтгофэн малодшы — 24-го.

**Усходні тэатр:**

Слабая баевая чыннасць.

*Македонскі фронт*: Між Прэсбай Вардарам — сільны агонь артылерыі. У некаторых пунктах наступаўшые ворагі былі адкінуты.

---

БЭРЛІН. Імперскі канцлер паехаў у Вену дзеля перэгавораў. Яго ждуць назад у Бэрліне ў панядзелак па абедзі.

ПЕЦЯРБУРГ. «Рэч» друкуе на відочным мейсцы, што чацьвёрны саюз мае зрабіць заяву аб міры ў канцы гэтаго месяца.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). даносіць: Вестка „Daily Mail“, бытцым рада раб. і салд. дамагалася дачэснаго заміреньня, неправдзівая. Наадварот, рада апрацовывае адозву да салдатоў аб немагчымасьці сэпаратнаго міра і братаньня на фронці.

БЭРН. (В.Т.Б.). «Matin» даносіць с Пецярбурга, што тымчасовы урад пастанавіў с 4 прэдстаўнікоў работнікоў і салдатоў, 1 прэдстаўніка афіцэрскаго камітэту, 3 прэдстаўнікоў селянскаго саюза і 2 прэдстаўнікоў прафэсыональных саюзоў організаваць камісію дзеля фінансовых рэформ пад маршалкоўствам Тэрэшчэнкі.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). На нарадзі дэпутатоў с фронту, якіе знаходзяцца цяпер у Пецярбурзі, ваенны міністэр выступіў с прамовай, у якой між іншым сказаў:

„Энэргія нашых даўных і новых саюзьнікоў паможэ нам развязаць да канца справу амуніціі. Пытаньне аб стравованьні і аб пастаўцы скаціны — вельмі сур'ёзнае. У $1^1/_2$ месяца мы павінны павялічыць дастаўку ў армію спажыўных прадуктоў. Я стаю за далёка ідучую дэмократызацію нашай арміі. Але, калі мы пры гэтым зьнішчым павагу ўселякай уласьці, дык мы дойдзем зусім праціўных рэзультатоў. Касуючы ўселякі асабісты адказ, мы ізноў вернемся да старога ладу, калі ўласць была ў руках безадказных людзей“.

ПЕЦЯРБУРГ (Рэўтэр). Банда чыслом каля 30 анархістоў са Шліссэльбурга і Пецярбурга, аружных рэвольвэрамі і бомбамі, заўладала домам гэрцога Лейхтэнбэргскаго, каб залажыць там сваю глаўную кватэру. Ня гледзячы на загад рады раб. і салд., анархісты адмовіліся выйсьці з дому.

Камэндант Пецярбурга, генэрал Корнілов, падаўся у адстаўку. Сваю адстаўку ён тлумачыць тым, што некаторые організації дамагаюцца права рабіць контроль над гарнізонам, і тым, што прэдстаўнікі рады раб. і салд. дамагаюцца, каб ён усе свае прыказы падаваў ім на зацьверджэньне.

ШТОКГОЛЬМ. Ген. Рузскій падаўся у адстаўку с прычыны немагчымых варункоў на фронці. За фронтам кожын дзень адбываюцца сходкі, жадаючы міра, і дысцыпліна зусім разбіта. Да гэтаго трэба дадаць і тое, што палажэньне робіцца ўсё цяжэйшым с прычыны недастачы спажыўных прадуктоў.

Число дэзэртэроў з расейскай арміі ўсё болей узрастае. Хто ня можэ ехаць чыгункай, той ідзе да хаты пехатой.

Перэвага Леніна ў арміі значна узрастае, асабліва с таго часу, як яго пачаў паддзержываць популярны між войскам Горкій.

У той панядзелак у Пецярбурзі адбылася нарада партыі «большэвікоў». У прэзыдіум усемі галасамі выбралі Леніна і яго аднадумцоў.

КОПЭНГАГА. Як даносіць фінляндзкая соц.-дэм. газэта «Туоеmies», Ленін 30 красавіка на заседаньні рады раб. і салдат. пры сільным шуме сказаў прамову проці тымчасоваго ураду і ўсіх тайных умоў с саюзьнікамі. Ленін даводзіў, што гэтые умовы маюць у сабе плян раздзелу Кітаю між Францией, Англией і Расеей.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые удачы падводных лодак у Атлянтыцкім акіані: 5 параходаў, 1 парусьнік, 2 рыбаловы, — разам 22.000 тонн ёмкасьці.

---

*Вільня, 15 мая 1917 г.*

Тая часць польскаго грамадзянства, каторая хацела-бы далучыць наш край да Польшчы не гвалтам, а «дабром», стараецца нам давясьці, што наша Бацькаўшчына ешчэ не дасьпела да таго, каб жыць зусім асобным ад Польшчы, самабытным жыцьцём. Тым часам аказваецца, што акурат тое, што палякі кажуць аб нас, гавораць аб іх — немцы! Так, газэта «Kölnische Zeitung», разгледаючы становішчэ польскаго грамадзянства пасьля акту 5 лістапада 1916 году, назвала палякоў „народам поўным тэмпэрамэнту, але палітычна недасьпелым“...

Само сабой разумеецца, што польскае грамадзянство не магло памірыцца з гэткай заявай. Проці яе выступіў «Rok Polski», каторы, між іншым, пішэ:

„У гісторыі невядома нейкая нячысьленая група народаў-правадыроў, раўнуючы да каторых усе іншые былі-бы пазбаўлены здольнасьці развіцьця сваіх сіл дзержаўных і грамадзкіх. Апрыч таго, мы тут круцімся ў зачарованым коле. Якому-будзь народу адмаўляюць права да поўнаго государственаго жыцьця ўжо ў гэты момэнт затым, што народ гэты палітычна недасьпеў. Але, хоць бы гэта была праўда, народ гэты толькі жывучы сваім уласным дзержаўным жыцьцём можэ дайсьці патрэбнай сьпеласьці. Наадварот, калі над народам, каторы папраўдзі хочэ будаваць для сябе сам усё жыцьцё, будзе устаноўлена апека, дык гэта—не найлепшы способ завясьці правільные адносіны між народамі. Тут можна нечаго навучыцца толькі спрабаваўшы на сабе. Калі-б на зямлі якога народу была пушчэна ў рух найлепшая гасударственая машына, ды чужая,—дык яна ані ня вызаве ў яго энтуз'язму, ані ён дасьпее да самабытнаго жыцьця ў будучыне“.

Пераходзячы далей да справы Польшчы, газэта пішэ:

„Лёгка можна заўважыць, што ў цяперашнім часі, калі здабываюць свой уласны дзержаўны быт народы без гістарычнай традыцыі і бяз моцнай дзержаўнай організаціі ў мінуўшчыне, са слабым развіцьцем грамадзка-клясовым, бедные духовай і матэр'яльнай культурай,—у гэткім часі трудна падумаць, каб нас спэцыяльна мог даткнуць закід палітычнай недасьпеласьці“.

А, каб давясьці немагчымасьці гэткаго закіду, газэта пазываецца на незалежны дзержаўны быт Польшчы у прошлым.

Нічога супроць доказоў газэты мы сказаць ня можэм: яны — зусім правільные. Але, калі ўспомнім, што і наш край меў так сама слаўную гасударственую мінуўшчыну, як Польшча, калі довады тэорэтычные аднясем да нас, дык і палякі павінны будуць прызнаць, што іх ахвота забраць нашу Бацькаўшчыну пад сваю «апеку», як «палітычна недасьпелую», не мае пад сабой ніякаго грунту: на моцы слоў «R. P.», мы маем усе варункі на тое, каб «дасьпець» і бяз помачы Польшчы..

Ешчэ колькінадцаць гадоў таму назад аб беларусах можна было сказаць, што гэта—народ бяз будучыны, бо ён не мае сваей інтэлігенціі. Але праз гэткі кароткі час—ад рэвалюціі 1905 году — на нашых вачах нарадзілася і узрастае беларуская інтэлігенція, каторая, асабліва с таго боку фронту—ў Расеі, становіць паметную сілу і іграе сур'ёзную ролю ў перастройцы жыцьця ў сваей Бацькаўшчыне. А расла яна і першые крокі стаўляла ў незвычайна цяжкіх варунках, калі пад уціскам царызму беларусы ня мелі ні свабоды слова, ні школы ў роднай мові, калі іх нідзе не прызнавалі за асобную націю. І цяпер, калі старые путы разбіты, мы можэм с поўнай верай сказаць: будучына—наша!

---

## Да нашых палонных.

Кожын дзень прыносіць нам кароценькіе, але красамоўные лісткі—пісьмы палонных беларусоў. Кожын дзень маемо мы новы доказ, як там—у палоні—будзіцца ў нашых братоў нацыональная сьвядомасць і нацыональнае сумленьне.

„Даведаўшыся церaз „Вістник Союза Визволеня України“, што ў Вільні выходзіць у нашай роднай мові газэта і друкуюцца кніжкі,... прашу выслаць трошкі популярнай літэратуры і пару лемэнтароў, каб навучаць другіх беларусоў, што і мы ёсць нація—народ... У нашым таборы ёсць трохі беларусоў, але ўсе яны—надта бедные, мала сьвядомые, падмогі ніскуль не маюць“.

Так пішэ адзін ваенна-палонны беларус с табору Dunasze dahely, ў Вэнгрыі.

А вось пісьмо беларуса с табору для ваенна-палонных у Раштаці:

„Дужа хацеўбы пазнаёміцца са сваей роднай літэратурай і са сваей гісторыей. Чую, як загаманілі людзі, а такжэ і нашы беларусы, якіх пачатковы цэнтр ёсць м. Вільня. З вялікаю радасьцю вітаю вас і вашу работу.... На днях якась у наш табор дайшоў „Беларускі Календар“ на 1917 год, і цяпер толькі ўразумеў, што гэта

стала даваць малако. Схаваўшыся, людзі дайшлі, што яе украдкам даіў зусім спакойна нейкі чэлавек, каторы прызнаўся, што робіць гэтак ужо доўгі час. Гаспадыня пажалілася на яго паліцыі.

ОЛІТА. 21 мая г. г. а 10 гадз. раніцай будзе здавацца ў арэнду права на лоўлю рыбы ва ўсіх вазёрах оліцкаго пав.

# Рэволюція у Расеі.

ШТОКГОЛЬМ. Орган работн. і салд. «Рабочая Газета» пішэ:

„П. Буканэн усё ешчэ не разумее абурэньня расейскіх работнікоў с прычыны таго, што Англія прысвоіла сабе право мешацца ў унутрэные справы Расеі, — як бытцым Расея сталася ўжо англіцкай колоніей“.

ПАРЫЖ «Gaulois» пішэ:

„Весткі з Расеі пацьверджаюць высказаные намі ў пачатку рэвалюціі думкі. Цяпер рада работнікоў прызывае да мірных перэгавораў, адмовіўшыся ад аннэксій. Саюзные дзержавы павінны энэргічна дабівацца ў Пецярбурзі вясьненьня гэтаго недаразуменьня, пасьледзтвы каторага могуць між Расеей і саюзьнікамі вызваць вельмі сур'ёзны разлом“,

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Міністэр заграніччных спраў Мілюков здаў прэдстаўнікам арміі на фронці справу аб палажэньні заграніччнай палітыкі. Між іншым ён сказаў: „Ёсць тайные умовы, каторых нельга апублікаваць, бо адкрыцьце сэкрэтоў нарушае інтэрэсы ня толькі дэмократіі Расеі, але і інтэрэсы саюзьнікоў. Мэта вайны — гэта право народаў на вольнае нацыональнае развіцьце. Саюзьнікі трэбуюць, каб тые, хто зруйнаваў іх землі, вярнулі-бы шкоду. Саюзные дзержавы сперша цешыліся с прычыны рэвалюціі ў Расеі, але пасьля пачалі баяцца, што нямецкіе сымпатыі тамака перэважаць. Безладзьдзе ў нашых спажыўных справах і недахватка амуніціі непакояць нашых саюзьнікоў“.

ПЕЦЯРБУРГ. Скобелев, член спаўніцельнай камісіі рады работнікоў і салдатоў, заявіў, што ўвесь расейскі пролетарыат з абурэньнем адкідае думку аб сэпаратным міры. Кожын салдат, каторы жадае гэткаго міра з Нямеччынай, чыніць шкоду расейскай дэмократіі. Армія павінна быць магутнай, гатовай да дзела сілай і пачаць наступленьне.

ПЕЦЯРБУРГ. «Нов. Вр.» некольні дзён таму назад пісало аб грозьбе заняцьцем японцамі Владывастоку і часьці Сібіру, каліб Расея зрабіла сэпаратны мір. Гэта тлумачыцца думкай зрабіць націск на раду раб. і салд.

ШТОКГОЛЬМ. «Новая Жізнь» М. Горкаго тлумачыць пастанову рады раб. і салд. ехаць на з'езд у Штокгольмі страшэнне цяжкім палажэньнем Расеі. Аб якіх-колечы ваенных опэрацыях ня можэ быць гутаркі. Тымчасовы урад павінен патрэбаваць ад сваіх саюзьнікоў новай праграмы міра.

Гучков сказаў: „Людзі, каторые вядуць пропаганду за мір за ўселякую цану, вядуць разам с тым і пропаганду за грамадзянскую вайну. Нідаўна гаварылі, што Бацькаўшчына ў небаспечнасьці; цяпер жэ яна стаіць на самым краю пропасьці“.

ЛОНДОН. Рада раб. і салд. падала тымчасоваму ураду ультіматум аб сваіх дамаганьнях у справах заграніччнай палітыкі.

ЛЮГАНО. «Stampa» пішэ, што ў Расеі ёсць тры кірункі.

Першы, прэдстаўнік каторага—тымчасовы урад, абнімае сярэдніе клясы буржуазіі, нованарадзіўшуюся дэмократыю, ўмяркаваных соцыялістоў групы Плеханова і добрую палову Пецярбурскаго гарнізону, ды безмала ўсе войскі на фронці і ў іншых местох Расеі. Гэты кірунак стаіць за вайну за ўселякую цану на старане саюзьнікоў.

Другі кірунак прэдстаўлен радай раб. і салд. і абнімае большую часць пецярбурскіх работнікоў і палову войск у Пецярбурзі. Гэты кірунак дабіваецца чым скарэйшаго канца вайны на моцы умовы між усімі дэмократычнымі партыямі Эуропы.

Трэйці кірунак — гэта кірунак Леніна і яго староннікоў; ён дамагаецца, каб уласць у гасударстве ўраз жэ перэйшла ў рукі пролетарыату, ды каб вайна была той-час скончэна, нават на моцы сэпаратнаго міра.

ШТОКГОЛЬМ. У расейскай соцыялістычнай партыі адбылася церастройка. Староннікі Леніна утварылі новую партыю—соцыялістоў-комуністоў, супроць каторай арганізавалася партыя соцыялістычнаго цэнтру, да якой прыналежыць большая часць «большэвікоў». Газэта апошніх — «Новая Жізнь» Максіма Горкаго. Партыя гэта мае многа шансоў заняць кіраўнічае мейсцо між расейскімі соцыялістамі.

ЛОНДОН. «Daily Mail» даносіць с Пецярбурга, што рада раб. і салд. дамагаецца дачэснаго заміраньня на фронтах, пакуль не адбудзецца агульнае народнае галасаваньне.

ШТОКГОЛЬМ. Мілюков захвараў і ўжо трэйці дзень не выходзіць с хаты.

ШТОКГОЛЬМ. Генэрал Брусілов гэтымі днямі сказаў францускаму журналісту ў Кіеві, што аб расейскім наступленьні пакульшто нельга і думаць. На фронтах на цэлые мілі ваколіцы заліты вадой. Запасы амуніціі не надта вялікіе. Страваваньне арміі—вельмі цяжкое,

АМСТЭРДАМ. Расейскіе войскі у Франціі ня хочуць далей біцца за англіцка-францускую справу. Яны зразумелі, што іх назначаюць заўсёды на найбольш небаспечные і трудные опэрацыі. У апошнім часі былі прыпадкі, што расейцы пакідалі салавольна пазыцыі, бараніць каторые ім было загадано.

ШТОКГОЛЬМ. Грозьбай бунту 3 брыгада расейскаго экспэдыцыйнаго корпуса дабілася пазваленьня паслаць двох дэпутатоў у пецярбурскую раду раб. і салд. Яны выставілі жаданьне зрабіць чым скарэй мір і раздзяліць землі.

ЛЮГАНО. «Corr. d. Sera» даносіць с Пецярбурга:

Усе войскі захапіў палітычны рух, але яны знаходзяцца пад рознымі ўплывамі. Найбольш крэпкай асталася армія на фронці Брусілова.

ПЕЦЯРБУРГ. Генэрал Карцов, начальнік сібірскай дывізіі стральцоў, забіт у Рызе, гуляючы каля станціі.

ЛЮГАНО. «Corr. della Sera» даносіць:

Расейскаму тымчасоваму ураду ешчэ раз удалося выратаваць сваё становішчэ. Камэндант Корнілов адведаў казармы, каб пазнаёміцца з настраеньнямі салдацкіх масс. Часць гарнізону вэрна правіцельству; другая часць вагаецца між тымчасовым урадам і радай раб. і салд.; трэйцюю часць абхапіла соцыялістычная пропаганда. Корнілов стараецца цяпер утварыць асобны корпус з войск, напэўна верных тымчасовому ураду.

АМСТЭРДАМ. Гучков сказаў у Думе, што ў Расеі пануе анархія. Есць два урады, а значыць—полікрацыя. У арміі выяўляецца таяж хвароба, толькі ешчэ больш сур'ёзна. Нельга губляць ні аднэй мінуты, каб палажыць канец хваробі.

КОПЭНГАГА. З розных мейсц Расеі даносяць аб узросьці селянскіх разрухоў. У Тамбоўскай губэрні адбываюцца разгромы палацоў і двароў, і пры гэтым селяне загорываюць пасевы. У цыркулярным пісьме міністэрства сельскай гаспадаркі гаворыцца, што за апошніе дні тымчасовы урад атрымаў вельмі многа тэлеграм аб гвалтах селян над панамі. Гэтак сама узрастае рух між прамышленымі работнікамі. Рада работнікоў у Ніжнім Ноўгарадзі даносіць, што гвалты на чыгунках і волжскіх параходах дайшлі гэткай меры, што зносіны у пры волжскіх губэрнях—небаспечны. У Ростове—поўная анархія. Салдаты нападаюць на банковые канторы і часта грозяць самасудам.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Спаўніцельны камітэт рады раб. і салд. высказаўся перэвагай 23 галасоў проці 22 пры нябытнасьці 8 проці паступленьня ў коаліцыйнае міністэрство. Пытаньне гэтае развяжэ аканчацельна агульнае заседаньне рады раб. і салд., і трэба спадзевацца, што там будзе прынята іншая пастанова.

ЛЮГАНО. „Corr. della Sera“ даносіць:

С Пецярбурга даносяць, што спаўніцельны камітэт рады раб. і салд. назначыць у тымчасовы урад трох членоў сваіх, як міністроў без партфэлёў, але с правам голасу. Гэта пастанова зроблена на моцы перэгавораў між работніцкімі камітэтамі Пецярбурга і Масквы.

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). Ёсць праект стварыць тры новые міністэрствы: міністэрство амуніціі, міністэрство працы і міністэрство помачы.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Тымчасовы урад апавешчае заяву, ў каторай пералічэны ўсе крокі, зробленые дзеля выпаўненьня прынятых на сябе урадам павіннасьцей, як амнэстія, скасаваньне кары сьмерці, роўнапраўство грамадзян, свабода сходаў і саюзоў. Далей у заяве гаворыцца: „Аднак, тымчасовы урад ня можэ укрываць перад народам небаспекі ў будучыне. Група людзей без сумленьня хочэ гвалтам разбіць унутрэны палітычны лад і вызваць анархію. Тымчасовы урад заяўляе, што гэткі стан затрудняе упраўленьне гасударствам і суліць небаспеку ў унутрэным жыцьці і разгром на фронці. Перад Расеей стаіць грозьба анархіі і грамадзянскай вайны. Дзеля зашчыты здабытай волі трэба узмацаваць уласць, якая бароніць волю“.

ПЕЦЯРБУРГ. (П. Т. А.) Правіцельство скасавало ссылку і заменіло яе вастрогам ня менш, як на 3 гады.

Правіцельство улажыло камісію, каторая павінна выпрацаваць асновы выбароў у устаноўчы сэйм.

АПАРАНДА. Сюды даносяць, што насяленьню ў Пецярбурзі будуць выдаваць па $^3/_4$ фунта хлеба ў дзень. Насяленьне прызываецца быць спакойным і берагчы хлеб.

КОПЭНГАГА. Расейскі ваенны міністэр адбыў доўгую нараду з радай работнікоў і салдатоў, у часі каторай сказаў аб магчымасьці эвакуацыі Пецярбурга с прычыны недастачы прадуктоў, ад каторай найбольш церпяць работнікі. У Маскве палажэньне—ня лепшае. Галодны народ устраівае на вуліцах дэмонстрацыі і трэбуе адстаўкі тымчасоваго ураду.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Вестка аб самагубстве Сазонова — фальшывая.

# З усяго сьвету.

ШТОКГОЛЬМ. Спаўніцельный камітэт швэдзкаго «саюза міра» на пісьме звярнуўся да швэдзкаго міністра заграніччных спраў, трэбуючы пачаць крокі дзеля падгатоўкі міра. Скандынаўскіе правіцельствы павінны запрасіць прэдстаўнікоў нэўтральных дзержаў, каб апрацаваць прэдлажэньне сазыва міжнароднай мірнай конфэрэнціі.

Сягоньня тут сабраўся скандынаўскі камітэт саюзоў работнікоў Швэціі, Даніі і Норвэгіі дзеля супольнай работы, каб палажыць канец вайне. Камітэт абецаўся аказваць сваю поўную помач соцыялістычнаму мірнаму з'езду у Штокгольмі і высказаў надзею, што ні адна соцыялістычная партыя не адмовіцца прыняць учасьце ў тым з'ездзі.

ЛОНДОН. Члены работніцкай партыі, якіе належаць да міністэрства, маняцца ўчыніць энэргічные крокі перад Ллойд Джорджэм, каб неадкладаючы была развязана ірландзкая справа. Пануе пераконаньне, што іначэй міністры—прэдстаўнікі работніцкай партыі — выступяць з міністэрства.

АТІНЫ. Саіміс загадаў 7 грэцкім афіцэрам, староннікам немцоў, выехаць з Афін у Пэлёпонэс.

ЛЮГАНО. «Corr. d. Sera» пішэ, што ў Мілане арэштавалі 8 анархістоў, каторые раздавалі адозвы с прызывам да народу пачаць разрухі. У аднэй друкарні знайшлі 30.000 гэткіх адозв.

Офіцыоз італьянскіх соцыялістоў «Avanti» пішэ, што соцыялістычны партыйны урад на міланскім з'ездзі пастанавіў быць на соцыялістычным з'ездзі у Штокгольмі дзеля таго, каб: 1) устанавіць праграму ўсіх сэкцый за мір, 2) аднавіць інтэрнацыонал.

БЭРЛІН. Партыя «соц.-дэм. работніцкай еднасьці» апавешчае, што адгэтуль яна будзе называцца «партыей незалежных соцыялдэмократоў».

КОПЭНГАГА. «Socialdemokraten», орган даньскіх соц.-дэм., даносіць, што гішпанскае правіцельство адбыло нараду, на якой глаўным чынам разгледалі міжнародны соцыялістычны з'езд у Штокгольмі.

ЛОНДОН. «Times» даносіць з Унгэні (ў Румыніі):

Рэволюцыйны рух у Расеі не прайшоў бяз сьледу ў Румыніі. 20 дэпутатоў залажыло новую работніцкую партыю, праграма каторай — раздзел зямель між селянамі і работнікамі, свабоднае выбарнае право, грамадзкіе правы для жыдоў.

ШТОКГОЛЬМ. Прэдстаўнікі партый на соц.-дэм. з'ездзі сабраліся сягоньня пад маршалкоўствам Брандінга. Перэгаворы з нямецкімі дэпутатамі будуць адбывацца 15, 16 і 17 мая, а с францускімі — 18 і 19.

ГААГА. Англіцкі урад наглядае за соцыялістамі Ніжняй Палаты пры помачы шпіоноў і не дае ім знасіцца з расейскімі партыйнымі таварышамі. Англіцкім соцыялістам іх правіцельство ня выдало пашпартоў на падарожу ў Штокгольм.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**11.V. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Чыннасць артылерыі пры Аррас з абодвых бакоў дайшла значнай меры. Пры спробах здабыць Бількур ворагі адбіты з вялікімі стратамі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пад вечар баевая работа між Суассон і Рэймс узмацавалася. Сільные штурмы французоў між Зімовэй гарой і дарогай Корбэні—Бэррі-о-Бак, а такжэ пры Пронн адбіты.

---

У бітвах на паветры і стрэламі з зямлі збіты ў ворагоў 18 самалётаў і 1 лятучы шар.

Малодшы Ріхтгофэн збіў свайго 22 га ворага, Гонтэрманн—20-го.

**Усходні тэатр:**

Слабая баевая чыннасць.

*Македонскі фронт:* Францускіе і сэрбскіе наступленьня між Чэрнай і Вардарам не здалелі ўжо змяніць праігранай бітвы. Яны адбіты без астатку. У сваіх дарэмных атаках, трываўшых 3 дні, ворагі мелі цяжкіе крывавые страты.

**12.V. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Пасьля вельмі сільнай артылерыйскай падгатоўкі англічане ўчора вечарам атакавалі наабапол дарог Аррас-Ленс, Аррас-Дуэ, Аррас-Камбрэ, мейсцамі—вялікімі массамі. Яны адбіты нашым зашчытным агнём або контратакамі. Каля станціі Рэ бітвы ешчэ трываюць. Сягоньня раніцай пасьля вельмі сільнай падгатоўкі агнём пачаліся новые бітвы між Ашэвіль і Кеан.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Артылерыйская бітва на Эн і ў Шампані трывае далей. Пры Сэрні мы ў заядлай бітве на штыкі адкінулі французоў назад і палепшылі нашу лінію. Атакі ворагоў на вяршыны 91 і 108, на ўсходзі ад Бэррі-о-Бак, адбіты штыкамі ў вострай бітве.

---

Учора збіты 15 самалётаў ворагоў.

**Усходні тэатр:**

Слабая баевая работа.

*Македонскі фронт:* У заваропі Чэрнай, наабапол Градэсніцы і на поўдні ад Рума новые атакі ворагоў адбіты, нічога не дайшоўшы. На вяршынах Дабраполье, на ўсходзі ад Чэрнай, невялікіе бітвы ешчэ не закончэны.

**13 V. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Вялікіе штурмы англічан адбіты!

Пасьля вельмі сільнай артылерыйскай падгатоўкі між Ленс і Кеан англічане на раніцы пачалі свае штурмы між Гаврэль і Скарп, наабапол дарогі Аррас—Камбрэ і пры Бількур. Ім удалося ўварвацца ў Роэ. Ва ўсіх іншых пунктах яны адбіты штыкамі і агнём с самымі цяжкімі стратамі.

У вечары наабапол Монші былі новые штурмы, ды яны гэтак сама крывава адбіты.

Удачы англічан пры Бількур знішчэны контратакай аднаго батальёну гвардзіі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На поўначы ад Эн крыху спакайней. Артылерыйская бітва на канале Эн—Марн і ў Шампані да ваколіц Тагір далей крапчэла.

---

Ворагі 12 мая утрацілі ў бітвах на паветры 14 самалётаў над зашчытным агнём з зямлі—3. Францускі лятун быў прымушэн спусьціцца за нашымі лініямі.

**Усходні тэатр:**

Без перамен.

*Македонскі фронт:* На вяршынах Дабраполь'е і на поўдні ад Гума штурмы ворагоў адбіты без астатку.

---

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 12. V. **Італьянскі тэатр:** На фронці Ізонцо, ад Тольмэйну да Гэрцу, італьянцы падтрымлівалі агонь з гармат усіх каліброў.

ВЕНА. 13.V. **Італьянскі тэатр:** У арміі на Ізонцо узняліся ўчора вострые артылерыйскіе бітвы. На ўсім фронці ад Тольмэйну да мора ворагі пачалі артылерыйскі і мінамётны абстрэл, каторы трываў усю ноч і трывае цяпер. Наша артылерыя ўдачна адказывае.

Пачалі гаварыць гарматы ў Карынтыі і ў Тыролі.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. Аб тым, колькі проці немцоў на заходзі собрано артылерыі, гаворыць прыказ 17 англіцкаму корпусу; каторы атакаваў 9 красавіка на шырыні 5.000 мэтроў. На гэтым фронці стрэлялі 698 гармат і 268 мінамётаў. Гэтак, лічучы асьцярожна, на ўсім фронці наступленьня, 20 кілём. шырокім, было прынамсі **4000 гармат і мінамётаў**, кінуўшых на нямецкіе пазыціі за 7 дзён барабаннаго агня **ад 9 да 10 мільёнаў бомб.** Уся ужытая англічанамі пры Аррас амуніція даходзіць ад 25 да 30 мільёнаў снарадоў.

ЛОНДОН. Просячы ў Ніжняй Палаці новаго ваеннаго крэдыту на 10 мільярдоў, Бонар Лоў сказаў:

„Новымі ваеннымі крэдытамі выдаткі на вайну будуць аплочэны да 1 верасьня“.

У журналі „XIX Century“ Шадвэль прарочыць скоры канец вайны. Прычыну гэтаго ён бачыць у недастачы войска, работнікіх рахах і недахватцы спажыўных прадуктоў.

ВАШЫНГТОН. (Рэўтэр). Конгрэсу будзе пададзен праект закона, каторы дае Рузэвэльту права оргамізаваць корпус войска для Франціі з рэкрутоў ад 20 да 31 гадоў.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Сяродземным моры ізноў затоплены 9 параходаў і 8 парусных караблёў разам 32.000 тонн ёмкасьці. У Атлянтыцкім акіані — ешчэ 4 параходы і 3 парусьнікі, разам 21.000 тонн ёмкасьці.

БЭРЛІН На 1 лютаго ў Нямеччыне, Аўстро-Вэнгрыі, Боўгарыі і Турэччыне было 2.080.699 расейск. палонных. У тым ліку 14.230 афіцэроў.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). У часі напасьці лёгкіх нямецкіх марскіх сіл на ўсходзі ад маяка Норд Гіндэр мы агнём артылерыі затапілі англіцкі контрмінаносец. У нас німа ні страт, ні шкод.

Самалёты ворагоў зрабілі налёт на Зээбрюггэ і Брюггэ і скінулі 60 бомб. Ваенных шкод нідзе не было. Стрэламі з зямлі мы збілі самалёт ворагоў.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У Атлянтыцкім акіані і Англіцкім канлі ізноў затоплено 6 параходаў, 7 парусьнікоў і 12 рыбаловаў агульнай ёмкасьцю 29 500 тонн

БЭРЛІН. Падводнымі лодкамі ешчэ затоплены 8 параходаў, 4 парусьнікі і 6 рыбаловаў, ёмкасьцю разам 23 000 тонн.

---

### Магічны квадрат.

| | | | |
|---|---|---|---|
| а | а | а | а |
| а | а | в | в |
| ё | к | к | п |
| п | с | с | ш |

Перэставіць літэры так, каб атрымаць чатыры словы, што аднак чытаюцца з лева ў права і з верху ў ніз.

## АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.